

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№11(109)

1 верасня 2013 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# У КЛІМАВІЦКІМ РАЁНЕ КОЖНЫ ГОД ЗАЧЫНЯЕЦЦА ПА АДНОЙ-ДЗВЕ ШКОЛЫ

**Міхась ПЯТРОЎ**

***Дзясяткі школ Магілёўшчыны ўжо не сустрэнуць 1 верасня наступны навучальны год. Яны будуць зачынены, як і шмат іншых устаноў адукацыі па ўсёй краіне. Гэтыя праблемы ўзніклі не на пустым месцы. Так, у мінулым годзе міністр адукацыі Сяргей Маскевіч паведаміў, што ў Беларусі налічваецца 200 устаноў з напаўняльнасцю да 25 навучэнцаў. Акрамя таго, існуе 392 класы з усяго 1 навучэнцам. Зразумела, што пры такім дэмаграфічным становішчы школам не пазбегнуць закрыцця. Да прыкладу, у Клімавіцкім раёне даўно прызвычаіліся да таго, што тут штогод зачыняецца адна ці нават дзве школы.***




Сітуацыяй на Клімаўшчыне зацікавілася Радыё Свабода. З гэтай мэтай 16 жніўня была падрыхтавана адмысловая радыёперадача з красамоўнай назвай “Зачыняюць школу — памірае вёска”. Яе слухачы даведаліся аб закрыцці школы ў вёсцы Судзілы, якая назаўжды спыніла сваё існаванне гэтым летам. Прапануем чытачам нашага выдання азнаёміцца са зместам перадачы.

* РАДЫЁ СВАБОДА: “На Магілёўшчыне зачыняюць больш за 20 устаноў адукацыі. Гэта пераважна школы ў аддаленых вёсках з невялікай колькасцю вучняў і з беларускай мовай навучання. Яшчэ 12 адукацыйных устаноў рэарганізуюць. Заяўляецца, што ўтрымліваць малакамплектныя школы эканамічна немэтазгодна.

Настаўнікам школ, якія зачыняюцца, пры канцы мінулага навучальнага году прапаноўвалі працоўныя месцы ў іншых школах — часам за дзесяткі кіламетраў ад месца жыхарства. Яны прызнаюцца, што пагаджаліся, бо падзецца ім няма куды.

«Якая ўжо там будзе тая праца… Калі я, да прыкладу, жыву ў вёсцы і мне трэба ездзіць за 25 кіламетраў, а білет каштуе ў адзін канец амаль 10 тысяч, а за дзень гэта атрымліваецца дваццаць. А пяць дзён на тыдзень? Колькі я там зараблю і колькі я наезджу? А тым больш сельская мясцовасць — гэта гаспадарка і дзеці. Маршрутка ў сем гадзін раніцы. Нам жа праезд не аплачваюць», — наракае адна з настаўніц з зачыненай школы ў Клімавіцкім раёне.

Закрыццё школ настаўнікі і вяскоўцы паўсюль успрымаюць аднолькава — негатыўна. Для вёсак школа — асяродак, вакол якога цепліцца мясцовае грамадскае жыццё. Няма школы — вёска памірае хутчэй. Клімавіцкая настаўніца працягвае:

«У будынку школы ў нас знаходзяцца пошта, бібліятэка. Цяпер школы не будзе — значыць, не будзе ацяплення. Ці будзе ў ёй пошта і бібліятэка — пытанне. Вёска не маладая. Пенсіянеры. Калі ў школе былі нейкія святы ці іншыя мерапрыемствы, гэтыя старыя прыходзілі да нас. А так куды яны выйдуць? Тыя, хто зможа з’ехаць, — раз’едуцца. І ўсё».

Дзяцей з зачыненых школ будуць вазіць у вёскі, дзе школы яшчэ засталіся.

«Ну вядома ж, на месцы школа лепей. У мяне вось двое дзяўчатак у школу ходзяць. Каму тут што скажаш? У іх даўно было запланавана. Яны чакалі, пакуль год скончыцца. Там ужо разгрэблі ўсё, што можна. І нават комін школьны ў качагарцы спілавалі. Развальваюць усё. Шкада, там жа новы будынак. Вы б прыехалі да нас, сфатаграфавалі нашу школу. Прыгожа там. Новы будынак. Парк побач. Вялікі стадыён. Усё застанецца без гаспадара», — кажа жыхарка вёскі Судзілы Клімавіцкага раёну”.

ДАРЭЧЫ: Узнятыя на Радыё Свабода праблемы патрабуюць тэрміновага вырашэння. Апошнім часам аб гэтым пачалі казаць і афіцыйныя асобы. Яшчэ ў лістападзе 2012 года старшыня ЦК Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі РБ Аляксандр Бойка паведамляў газеце “Звязда”: “Калі закранаць тэму закрытых школ, то трэба звярнуць увагу яшчэ на дзве акалічнасці: гэта падвоз дзяцей у суседнія населеныя пункты і праблемы, з якімі сутыкаюцца настаўнікі, якім за свае грошы даводзіцца ездзіць на работу штодня за 30-40 кіламетраў. Пытанне кампенсацыі настаўнікам кошту іх праезду са сродкаў мясцовых бюджэтаў пакуль не вырашана”.



# ПАМЁР ЖУРНАЛІСТ ГЕНАДЗЬ СУДНІК

***РАДЫЁ СВАБОДА: У Магілёве ў ноч на 24 жніўня на 71-ым годзе жыцця памёр журналіст Генадзь Суднік. Ён цяжка хварэў. У яго быў рак лёгкіх. За тры дні да скону Генадзь Суднік адзначыў сваё сямідзесяцігоддзе.***

Генадзь Вітольдавіч Суднік нарадзіўся 21 жніўня 1943 году ў расійскім Арэнбургу. Служыў у танкавых войсках. Вучыўся на журналіста ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Яшчэ за савецкім часам зрабіў неблагую кар'еру журналіста і партыйнага функцыянра. Пасля жнівеньскіх падзеяў 1991 году далучыўся да руху БНФ «Адраджэнне».

Больш за сорак гадоў быў знаёмы з Генадзем Суднікам журналіст Анатоль Гуляеў. Пазнаёміліся яны ў далёкім 1971 годзе. Тады спадар Анатоль толькі дэмабілізоўваўся з войска і стаяў на жыццёвым раздарожжы. Генадзь Суднік стаў тым, хто падказаў шлях у журналістыку Анатолю Гуляеву. Цяпер журналіст адзначае тое, што было для Генадзя Судніка справаю жыцця — стварэнне студыі тэлебачання Магілёўшчыны. Гэта быў час васьмідзесятых. Магілёў быў тады адзіным з абласных гарадоў Беларусі, дзе не было ўласнай студыі тэлебачання:

«Ён так быў захоплены гэтай ідэяй, што пакінуў прэстыжную пасаду, пераехаў з сям'ёй у Магілёў і пачаў ствараць магілёўскае тэлебачанне. Яму давялося рабіць усё з нуля, шмат займацца навучаннем кадраў. У выніку ён стварыў гэты тэлерадыёкамітэт. Беларуская журналістыка ў асобе Генадзя Судніка згубіла не толькі моцнага журналіста, але і дужа сур'ёзнага арганізатара».

У 1994-м годдзе Генадзю Судніку давялося сысці з пасады старшыні Аблтэлерадыёкамітэту. Для каманды абранага прэзідэнта журналіст быў чужым. Сябар Генадзя Судніка актывіст руху «За свабоду» Віталь Васількоў згадвае:

«Генадзь Вітольдавіч найперш заявіў пра свае дэмакратычныя погляды і прыналежнасць да тагачаснага БНФ. Яму проста прапанавалі перадаць справы маладому чалавеку, які прыехаў з Мінску — Ягору Рыбакову. Ён ніколі больш не прасіўся пасля зыходу з дзяржаўнага тэлебачання на дзяржаўную працу. Для яго гэта было дужа цяжка, але ён прыняў гэта як належнае».

Генадзь Суднік знайшоў сябе ў незалежнай журналістыцы. Рэдактарка навінаў незалежнага тэлеканалу «Магілёў-2» Алена Барысава адна з тых, каму Генадзь Суднік у Магілёве дапамог стаць тэлежурналістам. Генадзь Суднік быў дырэктарам тэлеканалу:

«Уявіць сабе журналістыку ў дзевяностыя без Судніка немагчыма. Для тэлебачання ён быў і альфай і амегай. У дзевяностыя, калі ніхто не ведаў як трэба працаваць на тэлебачанні, ягонай галоўнай рысай было тое, што ён давераў працу нам маладым. Ён нам тактоўна падказваў, даваў волю творчасці. Для маладых журналістаў ён быў апірышчам. З ім можна было пагаварыць, параіцца. Паскардзіцца на ягоныя ж заўвагі. Але толькі потым ты разумееш, як многа ён аддаваў».

Беларушчына была для Генадзя Судніка тым, што вызначала яго выбар у няпростых жыццёвых сітуацыях. Усё, за што браўся журналіст было беларускамоўным. Тое адзначае сябра Таварыства беларускай Мовы Міхась Булавацкі:

«Ён сын вайскоўца і меў права не вучыць беларускую мову і ён яе не вучыў. Але пасля таго як ён трапіў у рэдакцыю газеты „Магілёўская праўда“, якая на той час была цалкам беларускамоўнай, ён проста ашалеў ад захаплення мовай, як сам казаў: „Якая прыгожая мова“. Не вывучаючы яе ў школе, сам урэшце засвоіў так, што карыстаўся ёй на прыстойным узроўні. Ён бараніў мову і на радыё і на тэлебачанні. Гэты чалавек сымбаль беларускай журналістыкі».

Бабруйскі журналіст Анатоль Санаценка, згадваючы Генадзя Судніка адзначае ягоныя чалавечыя якасці, якія гарманічна спалучаныя з прафесійнымі:

«У ім была нейкая рэдкая чалавечая цеплыня ды шчырасць. І гэта дужа прываблівала. Генадзь Суднік быў прафесіянал, якіх мала і гэта цяпер назаўжды. З ягоным зыходам Магілёва стала менш».



Генадзь Суднік пасля зыходу з пасаду старшыні абласной студыі тэлебачання акрамя тэлеканалу «Магілёў-2» рэдагаваў грамадска-палітычныя газеты «Ратуша» і «Тыднёвік магілёўскі». Быў сябрам Праўлення Беларускай асацыяцыі журналістаў. Аказваў вялікую дапамогу незалежным рэгіянальным выданням Магілёўшчыны, у тым ліку “Клімавіцкай Інфа-Панараме”.

## “БЕЛСАТ” СМУТКУЕ

***Памёр Генадзь Суднік, які дапамагаў ствараць тэлеканал***

***У Магілёве пайшоў з жыцця адзін з найдаўнейшых працаўнікоў “Белсату”. Некалькі дзён таму Генадзь Суднік адзначыў сваё 70-годдзе. Журналіст мужна змагаўся з ракам лёгкіх.***

***Генадзь Суднік працаваў для “Белсату” з самага пачатку існавання незалежнага тэлеканалу, быў сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў. Да травеньскага рэферэндуму 1995 года працаваў у магілёўскім аддзяленні дзяржаўнага тэлебачання, але сышоў адтуль з палітычных прычынаў.***

***“Генадзь Суднік быў вельмі дасведчаны і каштоўны супрацоўнік “Белсату”. У якасці каардынатара тэлеканалу па Магілёўскай вобласці ён стварыў адну з найлепшых здымачных групаў. У яго быў талент распазнаваць журналісцкія здольнасці у людзях, навучыць, зрабіць з іх сапраўдных майстроў сваёй прафесіі”, — распавёў пра свайго калегу кіраўнік рэдакцыі інфармацыйных праграмаў “Белсату” Аляксей Дзікавіцкі.***

***Генадзя Судніка будуць памятаць на “Белсаце” як вельмі інтэлігентнага, прыемнага і далікатнага чалавека. “Журналісты праз спецыфіку сваёй працы часта знаходзяцца ў стрэсе, нярэдка нервуюцца і адчуваюць негатыўныя эмоцыі. Ад Генадзя Судніка я ніколі не пачуў вострага слова, хоць часам, трэба прызнаць, ён і меў права падвысіць голас”, — адзначыў Аляксей Дзікавіцкі.***

***Усе працаўнікі «Белсату» моцна смуткуюць па сваім калегу і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім. Вечная яму памяць...***





# ПИКЕТ БЕЗ БАЗАРА

**Тимур НЕЗВАНОВ**

***Активист из Климовичского района Александр Балобин получил из местного райисполкома ответ на поданную заявку о проведении пикета солидарности с белорусскими политзаключенными. Из полученного ответа он узнал, что для проведения пикета необходимо разрешение директора рынка. Вот, оказывается, кто отвечает в Климовичах за демократию!***

В ответе за подписью заместителя председателя Климовичского райисполкома А. Ломанова сообщается следующее. Климовичский райисполком рассмотрел заявление по вопросу проведения пикетирования на центральном рынке города 23 августа 2013 года. В связи с этим сообщается, что «Центральный рынок находится в частной собственности. Для принятия мер реагирования по Вашему обращению Вам необходимо получить письменное разрешение директора частного унитарного предприятия по оказанию услуг "Климовичский центральный рынок" Давыдова А.М. на проведение массового мероприятия». Также А. Ломанов пишет, что в случае несогласия с принятым решением активисты могут обжаловать его в суде Климовичского района.

По мнению Александра Балобина, местные власти не собираются разрешать проведение в Климовичах пикета солидарности с политзаключенными. Провести мероприятие на рынке, судя по всему, не получится. Возможно, придётся искать другое место, где не нужно будет обращаться за разрешением к дополнительным посредникам.

Напомним, что 6 августа климовичские активисты «Говори правду» подали заявку на проведение пикета в поддержку белорусских политзаключенных. Пикет в Климовичах собирались провести 23 августа, накануне очередной годовщины со Дня придания Декларации о государственном суверенитете Беларуси статуса конституционного закона — это решение Верховный Совет принял 25 августа 1991 года.

# СИМВОЛИЧЕСКИЙ ПАМЯТНИК

**Данила МЕСТИЧ**

***В середине августа в Климовичах стали обсуждать новость — в городе готовятся к установке танка-памятника. На въезде со стороны Кричева около новых кооперативных домов для него стали готовить постамент. Воздвижение бронированной машины объяснялось тем, что в сентябре Климовичский район будет отмечать 70-летие освобождения от фашистской оккупации. Но стальную махину привезли намного раньше этой даты, на бетонное основание её поставили 22 августа.***



Ясно, что в сентябре официальное открытие памятника уже не будет выглядеть интересным в глазах климовчан. К этому времени его увидят большинство жителей. Поэтому с доставкой танка в город явно поторопились. Да и сам повод, то есть использование для юбилейных торжеств конкретно этого танка, можно назвать сомнительным. В битвах второй мировой войны участия он не принимал. Фактически это будет символический памятник.

Именно поэтому возникает вопрос — а что же будет символизировать танковая броня, установленная на въезде в город. По всей стране и так стоят десятки стальных монументов, по последним данным в Беларуси в качестве памятников числятся 43 танка и 6 самоходок. А ведь есть ещё истребители и бомбардировщики, артиллерийские орудия и боевые машины пехоты. Иначе как непрекращающейся милитаризацией общественного сознания это не назовёшь. Пусть даже на постаменты и водружают устаревшую боевую технику.

В 2011 году тяжёлый танк ИС-3 занял место в центре районного города Сенно Витебской области. А в прошлом году танк-памятник появился в Волковыске на Гродненщине. Интересно отметить, что вначале он предназначался для Баранович, но подобная инициатива не нашла понимания в местном горисполкоме. Поэтому, в конце концов, он и появился в Волковыске.

Кстати, в Климовичах тоже не все согласны с размещением в городе бронированной достопримечательности. Особенно много споров вызвало место, где установили танк. По мнению жителей близлежащих домов, памятник не в лучшую сторону изменил окружающий ландшафт. А из-за невысокого основания залезть на него сможет любой малолетний ребёнок. Как теперь объяснить детям, что взрослые дяди поставили грозную машину вовсе не для игры в войнушку?

В ТЕМУ:

Из новостей в августе 2013 года на портале TUT.BY - В ночь с 31 июля на 1 августа 16-летний подросток лазил по танку, который стоит в сквере в городе Кобрин. Сорвавшись, он упал и разбил голову. Подросток был доставлен к медикам, диагностировавшим открытую черепно-мозговую травму. Затем его перевезли в отделение нейрохирургии Брестской областной больницы.

## ОФИЦИАЛЬНО БЕЗРАБОТИЦА ПОЧТИ ИСЧЕЗЛА

***Узнать, сколько в стране безработных, нелегко. Конечно, соответствующие статистические данные никто не скрывает, но только можно ли им доверять? Если исходить из официальной информации, то безработица в Беларуси — это исчезающее явление. В январе 2012-го в Климовичском районе было зарегистрировано 78 безработных, в январе 2013-го — 74, а спустя ещё полгода — 71. Но только не подумайте, что это ничтожно мало. Ведь в то же самое время в Костюковичах официально имелось 64 безработных, Кричеве — 52, Краснополье — 27, Хотимске — 19, а в Черикове — 18. Напрашивается вывод, что на фоне соседних районов Климовичи выглядят каким-то эпицентром нестабильности! А самые процветающие города в регионе, надо полагать, это Хотимск и Чериков.***



# БЫТ ИЛИ НЕ БЫТ?

## Решать бытовые проблемы в провинции затруднительно

Елена ПОЛЯКОВА

***Жизнь в маленьком городке имеет свои плюсы и минусы. Несомненным плюсом является тихая размеренная жизнь, отсутствие суеты и спешки, что преследуют горожан мегаполисов. В таких райцентрах как Климовичи можно легко обойти весь город пешком, попутно встретив множество знакомых. Но есть и отрицательные моменты проживания в провинции. Из минусов провинциальной жизни бросается в глаза недостаточное качество медицинского обслуживания, проблемы с общественным транспортом, скудный выбор в магазинах. Исходя из личного опыта, я бы добавила к этому ещё слаборазвитую сферу бытовых услуг.***




Конечно, постричься, починить обувь или часы, сделать фотографии и даже видеозапись семейного торжества в нашем городке можно. Но вот совсем недавно пришлось столкнуться со следующей проблемой. Неожиданно возникла срочная необходимость отремонтировать стиральную машину-автомат. Что делают в таком случае? Правильно, берут в руки телефон.

Естественно, первым делом позвонили в районный технический центр «Гарант». Приёмщица заказов сказала, что, во-первых, машинку нужно будет привезти к ним (а это, согласитесь, уже само по себе проблемно для «безлошадного» человека). Во-вторых, пояснила приёмщица, своего мастера по ремонту стиральных машин в Климовичах нет, для этого в «Гарант» приезжает человек из Костюковичей. А так как дело было перед выходными, то в ближайшие несколько дней извлечь бельё из машинки никак не получалось. Такое известие стало для нас неприятным открытием.

В итоге пошли за помощью по соседям и друзьям. Кто-то вспомнил похожие случаи, кто-то предложил полазить по интернету. Правда, от желания поэкспериментировать мы сразу же отказались, решив, что правильнее всё-таки будет найти специалиста. Ещё одно из преимуществ маленьких городков, здесь быстро разносится слава про толковых сантехников, штукатуров или электриков. Они не нуждаются в рекламе, таких умельцев люди сами советуют друг другу. Вот и мы стали обзванивать знакомых с просьбой посоветовать кого-нибудь.

Казалось бы, стиральная машина–автомат в наше время не редкость, она есть практически в каждом доме и квартире. Поэтому мне представлялось, что найти мастера по их ремонту не составит значительных затруднений. Только вот целый день поисков показал, что сделать это не так просто. По рекомендованным телефонам нам объясняли, что готовы разобраться с поломкой компьютера или холодильника, настроить телевизор, а вот починить стиральную машину никто не брался.

Слабая надежда появилась на следующий день. Утром на свежую голову вспомнилось, что возле больницы в помещении бывшего кафе «СМАК» открылась какая-то частная мастерская. Срочно отправились туда. Молодой парень подтвердил, что они занимаются ремонтом бытовой техники, работают не так давно. Согласился осмотреть машинку и в тот же день пришёл к нам домой. За два последующих часа неисправность была устранена. Конечно, мы были очень рады, так как уже не рассчитывали решить проблему в ближайшее время. И хотя всё кончилось хорошо, нельзя не задуматься, почему обычные житейские неурядицы вызывают такие затруднения. Если государство не может организовать бытовое обслуживание на должном уровне, то пусть создаёт условия для развития частного бизнеса в этой сфере. Государственное отношение к частной инициативе должно измениться, чтобы предпринимателям было выгодно заниматься оказанием бытовых услуг населению. Это будет на пользу как отдельным людям, так и обществу в целом.

# ВСЕМ МИРОМ ЗА КАБАНЯТИНОЙ?

Игорь БЫЧКОВ

***В Беларуси из-за угрозы африканской чумы свиней готовы отстрелять всех диких кабанов. В ряде районов уже начат поголовный отстрел.***

Главный государственный ветеринарный инспектор Юрий Пивоварчик объявил, что принято решение сократить популяцию диких кабанов в стране. Их рассматривают как переносчиков вируса АЧС. Поэтому в некоторых районах кабанов собираются отстрелять полностью, что подтверждают в районных охотничьих обществах.

Охотничьи аппетиты зашкаливают, заявляется, что нужно отстрелять всё кабанье поголовье, а это 80 тысяч особей! Ради этого даже снизили стоимость лицензии на охоту, чтобы стимулировать желание к отстрелу дичи. На Могилёвщине уже отстреляно полторы тысячи особей, а всего в области числится 11 тысяч диких свиней. В Круглянском, Шкловском, Горецком районах намерены убить всех кабанов поголовно. Возможно, также поступят и в Климовичском районе, где имеется свинокомплекс «Сосны». По данным «Климовичского лесхоза» численность поголовья кабанов в районе составляет около 200 особей, так что особых затруднений их отстрел не вызовет. Но возникает вопрос — восстановится ли потом популяция?

Даже отдельные охотники высказывают опасение, что поголовный отстрел приведёт к исчезновению кабана как вида. В борьбе со свиной чумой охота используется как средство по зачистке территории, что может нарушить существующий в природе экобаланс. К тому же ни в одной убитой в Беларуси дикой свинье ветпроверка не выявила вирус АЧС.





# МАЛЕНЬКИЙ РЕМОНТ ИЛИ БОЛЬШАЯ ПРОБЛЕМА?

## *даже ремонт балконов становится для ЖКХ непосильной задачей*

Сергей АРЖАНЦЕВ

***Ремонту аварийных балконов наша газета посвятила уже несколько публикаций в прошлом и нынешнем году. Признаться, в этом мы не оригинальны. Данная тема пользуется спросом в СМИ, о ней регулярно пишут многие областные и республиканские издания. Что поделать, ведь балконы как падали, так и продолжают падать. В том числе, вместе с людьми.***

Вот несколько фактов за последнее время. В конце мая сообщалось об обрушении двух балконов в жилом доме по улице Куприянова в Минске. Обломки свалились рядом с пешеходной дорожкой и детскими игровыми площадками. Тогда, к счастью, обошлось без жертв по чистой случайности. Но уже в июне произошла трагедия — погибла женщина. Жительница Слонима вышла на балкон и вместе с рухнувшей бетонной плитой упала на асфальт с третьего этажа. Медикам не удалось её спасти, спустя два часа она умерла в реанимации. А в июле отметился Могилёв, где в старом доме балкон буквально рассыпался на глазах. Камни и железо чуть не задели прохожего, проходившего в этот момент всего в нескольких метрах от здания.

Кстати, как раз летом могилёвские коммунальники рассказывали «Могилёвской правде», что за 15 лет в городе не было ни одного обрушения. Конечно, хорошо, что не было, но, как видим, может и быть. Сегодня в Могилёве на учёте коммунальных служб находятся сотни балконов с теми или иными повреждениями, из них 282 признаны аварийными. Чтобы не допустить трагических происшествий, коммунальные службы нередко заколачивают аварийные балконы или просто срезают их. Финансов на ремонт не хватает, а надеяться на сознательность жильцов коммунальники не хотят.

Если даже в областном центре планы по ремонту балконных конструкций расписаны на несколько лет вперёд, то легко представить, что творится в небольших районных городках. Об одном из таких случаев в Климовичах «Клімавіцкая Інфа-Панарама» пишет уже второй год подряд. Всё началось в феврале 2012 года, когда работники коммунального хозяйства обошли жильцов дома № 27А по улице Ленина и дали им под расписку следующий документ: «Предупреждение. Климовичское ДУКП «Жилком» ставит Вас в известность, что в связи с тем, что балкон находится в аварийном состоянии, пользование им запрещается».

На вопросы людей объяснялось, что ремонт планируется осуществить в течение лета. Но в 2012 году обещанным ремонтом никто заниматься не стал. В связи с этим в «КІП» было опубликовано несколько критических материалов. Думается, что статьи в независимом издании про аварийное состояние балконов привлекли внимание местных властей, а возможно, и контролирующих органов. В январе 2013 года было принято решение Климовичского райисполкома, утвердившее список объектов по капитальному ремонту жилищного фонда. И вряд ли можно назвать случайностью, что в данный перечень внесли дом № 27А, где предусматривалось выполнить усиление и ремонт балконов. Сделать это было намечено в июне-июле 2013 года.

Правда, как ни странно, в наступившем июне-июле никаких изменений к лучшему не произошло. Поэтому жильцы стали звонить на различные прямые и горячие линии, напоминая о невыполненном решении райисполкома. В итоге в середине августа коммунальники всё-таки приступили к ремонтным работам. Сейчас балконные плиты укрепляют с помощью металлических опор. В нынешних условиях вряд ли можно рассчитывать на большее. Скорее всего, дому № 27А, наоборот, повезло, что ситуация привлекла общественное внимание и стала решаться. Если бы не это, запрет на пользование балконами мог бы действовать годами, вплоть до их полной непригодности. Беларусь вступила в длительную полосу социально-экономического спада и пора осознать, что в ближайшей перспективе средств не будет хватать на гораздо более важные проблемы.



### *К СВЕДЕНИЮ:*

***В текущем году в целом по стране капитальный ремонт жилищного фонда выполнен только на четверть от плана. Как передаёт БелаПАН, из запланированных на год 2 млн. кв. метров в первом полугодии отремонтировано только 517 тыс. кв. метров общей площади жилья, или 26% от годового задания. А тут ещё у чиновников возникла идея не проводить капремонт домов 2–3-этажной застройки. Начальник управления жилищного хозяйства Министерства ЖКХ Эдмунд Гришкевич мотивирует это тем, что расходы на модернизацию таких зданий не окупаются. Ясно, что власти хотят банально сэкономить. Непонятно одно, почему тогда жильцы 2–3-этажных домов должны делать ежемесячные отчисления на капремонт.***



# ТВОРЧАЕ СЯБРОЎСТВА

**Алена ПАЛЯКОВА**

***Увесь гэты год жыхары шэрагу гарадоў вобласці знаёміліся з творчымі набыткамі дзвюх мастакоў і сяброў з Беларусі і Расіі. Беларус Леанід Ячнеў і расіянін Уладзімір Берднікаў падрыхтавалі выставу сваіх твораў, усяго прыкладна 80 пейзажаў і нацюрмортаў. Цікава адзначыць, што частка гэтых карцін з'явілася падчас супольных вандровак.***

Сумесная выстава карцін прадстаўляе сабой праект двух добрых сяброў. Вядомы мастак з Клімавіцкага раёну Леанід Ячнеў ведае свайго расійскага калегу некалькі гадоў. З Уладзімірам Берднікавым яны пазнаёміліся на адным з культурных мерапрыемстваў. Уладзімір Іванавіч з Шумяч, яго дзяцінства прайшло ў Бранскай вобласці, у трох кіламетрах ад Беларусі.

У размовах майстроў высветлілася агульнае захапленне прыродаю беларуска-расійскага памежжа. Хутка ўзнікла ідэя стварыць творчы тандэм, каб няспешна папрацаваць разам. Дзеля гэтага яны падарожнічалі па прыгожых мясцінах, у мінулым годзе выязджалі ў экспедыцыі на Браслаўскія азёры ў Беларусі і на Поўнач Расіі (Валагодская вобласць). Таксама зрабілі воднае вандраванне на самаробным плыце па рацэ Асцёр. Вандроўка працягвалася цэлы тыдзень, яна пачалася з пасёлка Шумячы ў Расіі і завяршылася ў вёсцы Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна.

Творчае сяброўства абумовіла з'яўленне выставы карцін «Пейзажы Беларусі і Расіі". Яе адкрыццё адбылося ў Клімавічах, у будынку Клімавіцкага раённага краязнаўчага музея. Потым мастацкую эстафету пераймалі Крычаў, Касцюковічы, Орша. Сёння творы прэзентуюцца ў Магілёўскай выставачнай зале па вуліцы Болдзіна, а пасля будуць дэманстравацца ў расійскіх музеях. Карціны выкананы ў рознай тэхніцы, у кожнага мастака свой асаблівы стыль. Акрамя жывапісу на выставе прадстаўлены аўтарскія працы Уладзіміра Берднікава, выкананыя з крышталю. Відавочна, што сумесны дуэт дзвюх сяброў стаў вельмі плённым для іхніх дасягненняў.



БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА:

* Уладзімір БЕРДНІКАЎ — Заслужаны мастак Расіі, сябра Саюза мастакоў, сябра Саюза дызайнераў. Работы захоўваюцца ў Смаленскім музеі-запаведніку, музеі Рослаўля, у прыватных музеях і зборах Расіі, Нямеччыны, Японіі, ЗША.

* Леанід ЯЧНЕЎ — беларускі мастак, прафесійна займаецца відэа, здымае фільмы. Персанальныя выставы твораў праходзілі ў Беларусі і за мяжой. Мае добрую вядомасць у Нарвегіі, дзе напісаў і прэзентаваў серыю высокапрафесійных работ. Карціны захоўваюцца ў прыватных і дзяржаўных калекцыях Расіі, Польшчы, Нямеччыны, Францыі, Канады, Бельгіі, ЗША і іншых краінах. У Клімавіцкім краязнаўчым музеі захоўваюцца работы: "Ранняя вясна", "Бераг ракі Сож", "Плыт", "Нарвежскі прычал".

# ДАПАМОГУ ПА ДОГЛЯДЗЕ ДЗІЦЯЦІ ІПЭШНІКАМ БУДУЦЬ ВЫПЛАЧВАЦЬ ЦАЛКАМ

**Алена Прус, БЕЛТА**

Праект указа аб механізме прыпынення дзейнасці індывідуальных прадпрымальнікаў, адвакатаў, прыватных натарыусаў і рамеснікаў у сувязі з водпускам па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў накіраваны на разгляд у Савет Міністраў. Аб гэтым паведаміў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Аляксандр Румак на анлайн-канферэнцыі «Дзяржпадтрымка сем'яў з дзецьмі» на сайтах БЕЛТА і Мінпрацы і сацабароны.

«Па выніках праведзенай 15 жніўня бягучага года нарады ў кіраўніка дзяржавы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны сумесна з зацікаўленымі органамі дзяржкіравання падрыхтавала праект указа, у адпаведнасці з якім індывідуальным прадпрымальнікам, адвакатам, прыватным натарыусам і рамеснікам прадастаўлена права на прыпыненне адпаведнай дзейнасці ў сувязі з доглядам дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў і выплату дзяржаўнай дапамогі ў поўным аб'ёме ў перыяд яе прыпынення», — сказаў Аляксандр Румак. — Цяпер праект указа накіраваны на разгляд у Савет Міністраў».

Пасля ўступлення ў сілу яго палажэнняў гэтым катэгорыям занятых грамадзян, якія прыпынілі сваю дзейнасць у парадку, вызначаным урадам, дапамога па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў будзе выплачвацца ў поўным памеры, падкрэсліў намеснік міністра.

# У МАГІЛЁЎСКІХ ВЁСКАХ 38% НАРОДЖАНЫХ ДЗЯЦЕЙ — БАЙСТРУКІ

**Ягор МАРЦІНОВІЧ, Наша Ніва**

***Белстат падлічыў колькасць дзяцей, якія летась нарадзіліся па-за шлюбам. Іх было 21 075 чалавек — на такім узроўні гэтая лічба трымаецца ўжо 10 гадоў. Прычым калі ў гарадах іх доля складае 15,8%, то ў вёсках дасягае 26%.***

***Істотная разбежка і па вобласцях. Напрыклад, у гарадах Гродзеншчыны па-за шлюбам нараджаюцца 11,1% дзяцей, у Мінску — 12,7% дзяцей, а вось у гарадах Магілёўшчыны доля байструкоў дасягае 17,2%.***

***Сярод вясковых жыхароў найменш пазашлюбных дзяцей на Брэстчыне — 17,3% дзяцей,***

***найбольш — усё на той жа Магілёўшчыне. Іх доля складае 38,1%. Колькасць байструкоў у гэтай вобласці пастаянна вялікая, яшчэ восем гадоў па-за шлюбам нараджаўся кожны другі.***





# У КАРАТКЕВІЧА ВЫКРЭСЛІВАЛІ — «БЕЛАРУСЫ», «БЕЛАРУСКІ»...

Уладзімер АРЛОЎ, svaboda.org

***25 жніўня вядомаму беларускаму пісьменніку Уладзімеру Арлову споўнілася 60 гадоў. З гэтай нагоды прапануем нашым чытачам адно з ягоных эсэ, што прагучала на хвалях Радыё Свабода ў 2010 г.***




Пра тое, як суіснавалі Караткевіч і савецкая ўлада, ужо напісаныя кнігі.

Даводзілася чуць, што Караткевіч-студэнт нібыта ездзіў з Кіева, дзе вучыўся, на пахаванне Сталіна. Але чамусьці верыцца ў іншае, засведчанае сучаснікамі больш грунтоўна, — у тое, што ў дзень тых хаўтураў Уладзімер наладзіў у студэнцкім інтэрнаце сяброўскую і зусім не жалобную застоліцу.

Аўтар "Каласоў пад сярпом тваім", безумоўна, не быў класічным пісьменнікам-дысідэнтам. Усе ягоныя кнігі выйшлі на радзіме, а не за мяжой (вядома, за выняткам перакладаў, якія часам з'яўляліся значна раней за арыгіналы). Але да славы і ўсеагульнага прызнання ён, як вядома, прабіваўся праз церні, якія маглі знявечыць і зламаць нават моцную, але менш апантаную сваёй справай (ці, дакладней, місіяй) натуру.

Цкаванне пасля першых публікацыяў у "роднай" аршанскай газеце "Ленінскі прызыў".

Хваля непрыхільных водгукаў на "Каласы" ад калегаў-літаратараў, якім Уладзімер Сямёнавіч пасля абмеркавання твору на радзе Саюзу пісьменнікаў абурана кінуў: "Не параўноўвайце жывое дрэва з тэлеграфным слупом!" Асобнай кнігаю раман "Каласы пад сярпом тваім" — галоўны твор майстра — выйшаў толькі праз некалькі гадоў.

Першаму раману "Нельга забыць", надрукаванаму ў 1962 годзе ў "Полымі" пад назваю "Леаніды ня вернуцца да Зямлі", пашанцавала значна меней. Набор аднайменнай кнігі (туды павінна была ўвайсці й аповесць "Дзікае паляванне караля Стаха") у 1963-м рассыпалі. Раман выйшаў толькі праз два дзесяцігоддзі. Дарэчы, па-чэску, у перакладзе Вацлава Жыдліцкага "Леаніды" пабачылі свет у іпастасі кнігі на шэсць гадоў раней, чым па-беларуску.

А колькі цэнзурных здзекаў зазнала кінастужка, знятая паводле раману "Хрыстос прызямліўся ў Гародні"...

Але Караткевіч не саступаў. У адным з лістоў, які за савецкім часам, натуральна, не друкаваўся, ён дзяліўся набалелым: "Я мог бы з куды большым поспехам пісаць па-расійску або, падвучыўшыся трошкі, па-польску. Меў бы статысячныя тыражы, дачу, прэміі. Я свядома пайшоў на больш цяжкі шлях... Нават дзеля таго, каб быць беларускім пісьменнікам, патрэбна мужнасць".

І мужнасць яму патрэбна была вышэйшай пробы. У тэксце "Ладдзі Роспачы", рукапіс якой займаў 23 старонкі, цэнзары й рэдактары (розніца паміж аднымі й другімі часта была няўлоўнай) зрабілі 296 (!) правак. Тое, што гаворка ідзе адначасова пра арыгінал і пераклад на расійскую мову В. Сёмухі, што прарваўся да чытача роўна на дзесяць гадоў раней за беларускі тэкст, — суцяшэнне слабое. І што правілася! Да прыкладу, паслядоўна выкрэсліваліся словы "беларусы", "беларускі", "беларуская зямля"...

Дзякуючы паэту й журналісту Глебу Лабадзенку, што выдаў унікальную кніжку з рукапісам "Ладдзі", кніжным тэкстам і праўкамі, мы атрымалі магчымасць не адно паабурацца, але і задумацца: якім жа прынцыпам будуць кіравацца рэдактары й выдаўцы пры выпуску абвешчанага новага, 25-тамовага збору твораў Караткевіча? Што будзе прыярытэтам: аўтарскі арыгінал ці прыжыццёвая (вельмі часта знявечаная) публікацыя — як лёгка паабяцаў адзін з удзельнікаў навуковай канферэнцыі, прысвечанай 80-годдзю пісьменніка?

На пахаванні Ўладзімера Караткевіча паэт Генадзь Бураўкін, здаецца, упершыню публічна назваў яго апосталам нацыі. Гэта і цяпер не ўспрымаецца як нейкая гіпербала. Мы працягваем атрымліваць ад нашага апостала новыя пасланні ў выглядзе адшуканых і раней не друкаваных твораў. (Набывайце й чытайце толькі што выдадзеную кнігу "Ўладзімер Караткевіч: вядомы і невядомы".) Мы ўчытваемся ў пасланні, некалі перададзеныя ў нашыя рукі ім самім. На ўжо згаданай юбілейнай канферэнцыі, да прыкладу, гучалі даклады, дзе аналізаваўся ўплыў на яго творчасць трактатаў Эразма Ратэрдамскага і нідэрландскай мастацкай школы. Альбо ішла размова пра караткевічаўскіх жанчын, якія зусім не супадаюць з традыцыйнымі для нашай літаратуры вобразамі прыгажунях, працаўніц і руплівіц. Ягоныя жанчыны — надзвычай, як і ў жыцці, розныя: харошыя і з чарвяточынкай, анёліцы і выляжанкі, "з вачыма Маці Божай на іконах і ротам сучкі прагнай", каханыя і наймічкі, якіх "таксама добра каля печкі цалаваць, калі лёс не шле царыцы, суджанай навек табе"...

Кім быў бы Ўладзімер Караткевіч для цяперашняй улады, каб дажыў, прынамсі, да сярэдзіны 1990-х?

Улада любіць мёртвых геніяў. Яны не даюць інтэрв'ю, не падпісваюць лістоў з патрабаваннямі вызваліць палітвязняў, не выступаюць на мітынгах... Але выглядае, што аўтар радкоў "За што галаву ты згубіла? Якую праўду сказала?" (верш "Безгаловая Венера") ні ў сённяшніх ідэолагаў, ні ў іх гаспадара, што выхоўваўся на "вершах Быкава", не надта ў пашане. Дагэтуль няма помніка Караткевічу ў Мінску, не мемарыялізаваная ягоная мінская кватэра ў доме № 36 па вуліцы К.Маркса, колішняй Падгорнай. Маглі б мы мець і помнікі ягоным героям — Алесю Загорскаму, Гервасію Выліваху... Пра ўвасабленне гэтага апетага Караткевічам шляхціча на ягонай радзіме, у Рагачове, улады загаварылі былі, ды так і заціхлі. Затое Андрэя Чарняўскага, дырэктара тамтэйшага музею, які столькі зрабіў для даследавання і ўшанавання памяці Караткевіча на любай сэрцу пісьменніка Рагачоўшчыне, нядаўна змусілі пайсці з пасады...

Ды не хочацца на заканчэнне пра сумнае. Лепей цытата з Караткевіча. Звяртаючыся да калегаў, ён любіў казаць: "Пісаць трэба так, каб вашыя кнігі ў бібліятэках кралі. Мае крадуць". Я, грэшны, таксама скраў калісьці ў адной вясковай бібліятэцы двухтамовік "Каласоў". Праўдзівей, узяў пачытаць, ведаючы, што не вярну. І быў пакараны тым, што неўзабаве тыя два тамы скралі і ў мяне.

Карацей, пісаць трэба менавіта так.





# ТЕРАКТ С БОДУНА

Александр ВЛАД

***Около двух часов ночи 15-го августа в справочную службу оператора мобильной связи «Велком» позвонил неизвестный. Мужской голос сообщил, что звонивший хочет совершить теракт на автовокзале в городском посёлке Хотимск. После сделанного заявления телефон выключили, не добавив больше никаких комментариев.***

Сотрудница справочной службы срочно обратилась в Хотимский районный отдел милиции. На сообщение о теракте отреагировали мгновенно. На автовокзал прибыла группа милиции, Следственного комитета, районного отдела по чрезвычайным ситуациям, медики «скорой помощи». Территорию немедленно оцепили и стали проверять здание автовокзала. На всякий случай, в целях предосторожности место посадки на самый ранний автобус было перенесено на безопасное расстояние.

В ходе тщательного осмотра ни в здании, ни на территории автостанции взрывчатых веществ или подозрительных предметов обнаружено не было. Одновременно шло установление личности звонившего, чем занималась специальная следственно-оперативная группа. В короткие сроки выяснилось, кто сделал тревожный звонок. По информации Управления внутренних дел облисполкома, им оказался 20-летний, нигде не работающий житель города Климовичи. По месту жительства тут же направили сотрудников правоохранительных органов.

Злоумышленник находился у себя дома в состоянии сильного алкогольного опьянения. Из расспросов стало ясно, что о теракте он сообщал уже будучи пьяным. Молодой человек пробовал объяснить, что его звонок был просто шуткой, а о своих намерениях он вообще ничего сказать не мог. Он даже сам не понимал, почему назвал в телефонном разговоре Хотимск. По его уверениям, ему никогда не приходилось там бывать.

В настоящее время, по данным uvd.mogilev.b, Хотимским районным отделом Следственного комитета в отношении звонившего возбуждено уголовное дело по ст. «Заведомо ложное сообщение об опасности». Данная статья предусматривает максимальную ответственность в виде лишения свободы на срок до 5 лет.

# ВЛАСТИ ПРЕДЛАГАЮТ ЗАМЕНИТЬ СВИНЕЙ УТКАМИ И ОВЦАМИ

Власти предлагают людям, лишившимся свиней в результате борьбы с африканской чумой, заняться разведением иной живности. Такое заявление сделал на днях вице-премьер Михаил Русый. По словам чиновника, сейчас разрабатываются мероприятия, которые дадут возможность населению в льготном порядке приобретать другой скот: «Или это будет крупный рогатый скот, или овцы, или гуси, или утки — мы проработаем все вопросы и в ценовом отношении, и в плане кормов, поставки комбикормов, если человек хочет иметь дополнительные источники поступлений в свой бюджет». Но любому понятно, что «иметь дополнительные источники поступлений» от содержания свиней или, скажем, уток — это две большие разницы.

## ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: БОЛЬШ ЗА 13 000 БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ




Праект “Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў. На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, газеты, аўдыё і відэа. Усяго размешчана больш за 13 000 розных выданняў. А ў раздзеле “Перыёдыка” знаходзяцца ўсе нумары “Клімавіцкай Інфа-Панарамы” за 2012 і 2013 год.

# БЕЛОРУСУ В КОМАНДИРОВКЕ ПЛАТЯТ В 4 РАЗА МЕНЬШЕ, ЧЕМ УКРАИНЦУ

***«Салідарнасць» сравнила размеры суточных, которые платят командированным в Беларуси, России и Украине.***

Министерство финансов спустя почти два года увеличило размеры возмещения расходов при служебных командировках в пределах Беларуси. Действовавшие до настоящего времени суммы были актуальны с октября 2011 года, напоминает interfax.by.

Суммы возмещения не так уж и изменились, но они хотя бы не выглядят так смешно, как в последнее время. Новшества отражены в постановлении Министерства финансов РБ №53 от 8 августа 2013 года, опубликованном 23 августа на Национальном правовом интернет-портале Республики Беларусь.

За проживание вне места жительства либо места пребывания для покрытия дополнительных личных расходов наниматель теперь будет выплачивать суточные в размере Br 60 000 (было Br 44 000) за каждый день командировки.

Размер суточных при однодневных служебных командировках и командировках в другую местность, находящуюся на незначительном расстоянии от места работы, составит Br 30 000 в сутки (было Br 22 000). Наконец, размер возмещения расходов по найму жилого помещения без представления подтверждающих документов составит Br 20 000 в сутки (было Br 13 000). Постановление Министерства финансов РБ №53 вступает в силу после его официального опубликования.

Для сравнения: в России размер суточных определяется локальными актами организации или коллективным договором. Их минимальная и максимальная величина не ограничена и устанавливается организацией самостоятельно. Суточные в размере до 700 российских рублей (188 300 белорусских рублей по курсу Нацбанка) за день командировки не облагаются налогом. В Украине предельный размер суточных, не подлежащих обложению налогом, составляет 229,40 гривен (251 972 белорусских рубля по курсу Нацбанка) за день командировки по стране.

Получается, белорусу в командировке платят в 3 раза меньше, чем россиянину, и в 4 раза меньше, чем украинцу.



КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр’евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*